Калі Вам трэба прадоўжыць падпіску на «Народную Волю» і атрымліваць газету і ў жніўні, завітайце на пошту да 27 ліпеня.

№№107–108
(3646–3647)

13 ліпеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СКАНДАЛ

## Вакол адны шпіёны?

Камітэт дзяржаўнай бяспекі паведаміў пра затрыманне двух грамадзян Беларусі, якія шпіёнілі на карысць спецслужб Літвы.

Згодна з афіцыйнай інфармацыяй, у затрыманых знайшлі электронныя носьбіты інфармацыі ды іншыя матэрыялы, якія сведчылі пра шпіёнскую дзейнасць, накіраваную на атрыманне сакрэтнай інфармацыі ў ваеннай сферы, *"у тым ліку ў рамках адзінай сістэмы бяспекі Саюзнай дзяржавы".* Паведамляецца, што факты правядзення агентурнай групай аперацый па здабычы інфармацыі з выкарыстаннем тэхнічных сродкаў з мэтай іх далейшай перапраўкі за мяжу дакументальна пацверджаны. Больш за тое, КДБ запэўніў: *"Факт супрацоўніцтва з літоўскімі спецслужбамі пацвярджаецца сабранымі ў ходзе следства доказамі, а таксама прызнавальнымі паказаннямі саміх абвінавачаных".*

*"Эксперты прыйшлі да высновы, што сабраныя для перадачы спецслужбам матэрыялы з'яўляюцца дзяржаўнымі сакрэтамі Беларусі",* — гаворыцца ў прэс-рэлізе. Пры гэтым чэкісты пахваліліся, што яны змаглі своечасова ўмяшацца і выявіць планы замежнай разведкі, а таксама *"ўзяць яе дзеянні пад кантроль і прадухіліць нанясенне сур'ёзнага ўрону абараназдольнасці і бяспекі дзяржавы".*

Супраць затрыманых распачата крымінальная справа па артыкуле 356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве). Калі справа дойдзе да суда, то ім можа пагражаць зняволенне ад 7 да 15 гадоў. Прозвішчы затрыманых не называюцца.

У літоўскай амбасадзе "Народнай Волі" паведамілі, што іхняму боку ў звязку з гэтай інфармацыяй нічога не было даведзена да ведама. Консульскі аддзел ніхто не турбаваў. Нявысветленым пры гэтым застаецца пытанне, якім чынам дапытвалі *"рэзідэнта ваеннай разведкі Літвы".* Калі ён з'яўляецца грамадзянінам замежнай краіны, то аб затрыманні трэба давесці адпаведнай консульскай службе.

Пасля некалькіх гадзін "пераварвання" інфармацыі Міністэрства замежных спраў Літвы катэгарычна абвергла заяву беларускага КДБ. Літоўскі бок адзначае: *"Абвешчаная на афіцыйным сайце КДБ Беларусі інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці. Такія інсінуацыі спецслужб суседняй краіны не садзейнічаюць паляпшэнню двухбаковых адносін".*

Кіраўнік парламенцкага Камітэта па нацыянальнай бяспецы і абароне Літвы **Арвідас Анушаўскас** заявіў: *"У першую чаргу з паведамленняў бачна, .што затрыманы грамадзяне Беларусі, а не Літвы. Я б вельмі асцярожна разглядаў заявы беларускіх спецслужб, гэтыя паведамленні не пацвярджаюцца абгрунтаванымі доказамі. Думаю, што гэта нейкія дзеянні беларускіх спецслужб, у якія спрабуюць уцягнуць Літву".*

Выпадкова ці не, але шпіёнскі скандал разгарэўся падчас правядзення праверкі па факце паведамленняў аб "бамбаванні" ўскрайку беларускай сталіцы і Івянца цацкамі са спартыўнага замежнага самалёта. Нагадаем, што "аўтары" гэтай акцыі заявілі, што заляцелі ў Беларусь менавіта з тэрыторыі Літвы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДЫПКУР'ЕР

## Новы брытанскі пасол прыбыў у Беларусь

Новы пасол Вялікабрытаніі **Брус Бакнел** вечарам 11 ліпеня прыбыў у Беларусь, паведамілі ў прэс-службе брытанскага дыппрадстаўніцтва. Самалёт спазніўся на тры гадзіны.

Бакнел быў прызначаны на гэту пасаду ў студзені 2012 года. Ён з'яўляецца кар'ерным дыпламатам, у Міністэрстве замежных спраў Вялікабрытаніі з 1985 года. Раней працаваў у брытанскіх пасольствах у Іарданіі, Італіі і Іспаніі, а таксама на розных пасадах у МЗС. Жанаты, мае двух сыноў.

*"Я рады магчымасці служыць у якасці пасла ў Беларусі. Беларусь іграе важную ролю ў стварэнні агульнай прасторы ў Еўропе для садзейнічання міру і працвітанню",* — заявіў Бакнел з нагоды свайго прызначэння.

НУ І НУ!

## «Шалашы» на праспекце

Днямі я вырашыў прайсці па сталічным праспекце Незалежнасці з фотаапаратам, падзівіцца на вулічныя кафэ. А здзівіцца ёсць чаму, таму што многія з гэтых гандлёвых кропак хутчэй нагадваюць "бункеры закрытага тыпу". Брэзентавыя палаткі, нейкія нязграбныя каробкі з цёмным шклом, каўпакі... Ад каго хаваюцца кафэ? Гукаізаляцыю зрабілі? У такой брэзентавай установе не тое што есці і піць не захочацца, — дыхаць праблематычна.

Дарэчы, такая карціна назіраецца на многіх адрэзках праспекта. Ні дызайну, ні практычнасці. Так, у некаторых месцах "шалашы" займаюць большую частку пешаходнай прасторы. У звычайны час за брэзентавымі, а дзе-нідзе і за шклянымі сценамі — 5—6 чалавек, а сотням, тысячам людзей даводзіцца штодзень абыходзіць гэтыя непрывабныя кафэ.



Гаспадарам "шалашоў" можна было б параіць з'ездзіць, каб набрацца вопыту, у Вільнюс. Там вулічныя кафэ — утульныя, не заштораныя брэзентам з вузкімі акенцамі, у асноўным знаходзяцца на ўскрайку прылягаючых да праспекта вулачак, дзе чалавек сапраўды адпачывае.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**
**Фота аўтара.**








ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

## Плюшевая оплеуха

Так чем же закончилась история с плюшевыми мишками? После того как "Народная Воля" рассказала о таинственном самолете в небе над Беларусью, с которого на землю были сброшены плюшевые игрушки, наши читатели стали звонить в редакцию и требовать продолжения истории. Однако пока продолжения нет. Несмотря на видео, выложенное в интернете, и признания группы шведов о том, что они действительно без всяких разрешений залетели на территорию нашей страны, белорусские официальные лица продолжают все отрицать.

*"Национальные средства ПВО и ВВС не зафиксировали факта нарушения границы Беларуси 4 июля легкомоторным самолетом, с которого якобы был выброшен "десант плюшевых мишек", как об этом сообщалось в СМИ",* — заявил информационному агентству "Интерфакс" генерал-майор Дмитрий Пахмелкин — командующий ВВС и войсками ПВО Беларуси.

*"Это была 100-процентная провокация против Беларуси при поддержке иностранных спецслужб. Наши средства ВВС и ПВО не подтвердили нарушения воздушного пространства неизвестным самолетом",* — сказал Дмитрий Пахмелкин в среду. Но не белорусским журналистам, а российским. Он принимал участие в заседании координационного комитета по вопросам противовоздушной обороны при Совете министров обороны государств — участников СНГ, которое состоялось в курортном киргизском городе, что на берегу Иссык-Куля.

*"Что касается начатой 5 июля провокации, о которой сообщалось в СМИ, о якобы залете на нашу территорию легкомоторного самолета в районе поселка Ивенец, то оно пока не завершено",* — уточнил генерал.

Он подчеркнул, что в случае обнаружения воздушного гражданского судна над территорией Беларуси средства ВВС и ПВО приняли бы все меры для его задержания. *"Мы бы подняли в воздух самолеты или в крайнем случае вертолеты и задержали бы воздушного нарушителя. По нашим законам, мы не можем открывать огонь на поражение, если в воздушное пространство Беларуси вторгся гражданский самолет",* — сказал Дмитрий Пахмелкин.

### ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

В настоящее время комиссия президента Беларуси проводит проверку всех соединений и воинских частей Военно-воздушных сил и войск противовоздушной обороны страны. Об этом сообщает информационное агентство БелаПАН со ссылкой на свои источники. Согласно этой информации, в состав комиссии входят представители Совета безопасности и Министерства обороны.

РЕПЛИКА

## Как медведь на голову

Кто-нибудь вообще понял, что сказал командующий ПВО по поводу "плюшевого десанта"?

*"Что касается начатой 5 июля провокации, о которой сообщалось в СМИ, о якобы залете на нашу территорию легкомоторного самолета в районе поселка Ивенец, то оно пока не завершено",* — объявил генерал Пахмелкин. Что не завершено? Провокация? Полет? Или на уме было слово "расследование"?..

Но если расследование еще идет, то откуда уверенность, что самолета не было?

Литовцы, уклоняясь от подробностей, говорят, что нарушение границы зафиксировано. Мишки с неба падали — люди их ловили, белорусская милиция собирала. А то, что наша система ПВО самолет не засекла, так в этом-то и проблема. Ведь и шведы подтверждают, что белорусские военные на них не среагировали. И что полетели бы они на президентскую резиденцию, если бы из минского аэропорта им не стали что-то говорить на непонятном русском.

Причем история незамеченного "десанта" беспрецедентна только плюшевыми игрушками. Примеры, когда наши компетентные органы не могли объяснить, откуда взялся самолет, уже были. Помнится, в болотах Гродненской области охотники наткнулись на такую неожиданную находку. Я покопалась в архивах и восстановила подробности того ЧП.

Ноябрь 2003 года. В Гродненском районе, в болоте между деревнями Маркиши, Дубинка и Озеры местный охотник наткнулся на обломки самолета. В кабине было три скелетированных трупа, а останки еще одного человека нашли чуть поодаль. Но ни опознавательных знаков, ни документов о принадлежности самолета и его регистрации, ни документов, удостоверяющих личности людей, не было. Не было никакой информации и о том, что самолет модели "Вилга-35" польского производства когда-либо пересекал воздушную границу Беларуси. Наши пограничники и ПВОшники оказались ни сном ни духом.

Пришлось делать запросы соседям, и из Литвы был получен ответ, что еще 29 марта (то есть почти восемью месяцами ранее!) у них пропал самолет соответствующей модели, на борту которого находился всего один пилот — 25-летний Тадас Валкаускас.

Сотрудники транспортной милиции, которые занимались этим делом, выдвинули две версии: наркотрафик и незаконная миграция. В конечном итоге пришли к выводу, что это была как раз перевозка нелегалов, поскольку вместе с литовцем погибли индусы. Их личности, кстати, установили только в 2009 году. Но дело не в этом. Дело в том, что и в 2003 году ПВОшники тоже могли говорить: *"Несанкционированное вторжение в воздушное пространство Беларуси не зафиксировано". Хотя тогда самолет не только влетел на нашу территорию, но и где-то приземлился, принял пассажиров и вновь взлетел. Однако все это так бы и оставалось "незафиксированным",* если бы случайно не обнаружились в болоте обломки самолета и трупы.

А вот сейчас нашли плюшевых медведей...

Можно ли считать случайностью, что Беларусь вооружается, вооружается, но так и не вооружилась, чтобы распознавать маленькие самолеты? Хотя, по крайней мере, с 2003 года об этой проблеме соответствующим службам должно быть известно. Может, шведы вторглись не только в воздушное пространство, но и в хорошо поставленный пограничный бизнес — наркотрафик, нелегалы — на который белорусская система ПВО действительно не обращает внимания? Может, военные просто не знали, что шведский самолетик перевозит игрушечных медвежат, и поэтому на него не реагировали?

Или почему с 2003 года мы не можем решить эту проблему?

**Светлана КАЛИНКИНА.**

НА СУВЯЗІ — ВІЦЕБСК

## «Славянскі базар» — свята не для ўсіх?

*Учора з самага ранку ў Віцебску выставілі брамкі металашукальнікаў і папярэдзілі, што тым, хто жыве ў цэнтры, нельга адчыняць вокны — так рыхтаваліся да прыезду на фестываль дэлегацыі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам.*

Вечарам адбылося ўрачыстае адкрыццё XXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Знешне да прыезду кіраўніка дзяржавы горад быў падрыхтаваны ў лепшых савецкіх традыцыях: расцяжкі з патрыятычнымі надпісамі, ліхтарыкі, сцяжкі.

"Народная Воля" і агенцтва БелаПАН засталіся па-за мерапрыемствам — менавіта на адкрыццё "Славянскага базару" нас чамусьці не акрэдытавалі...

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## «Хай сэрцы хлопцаў мячыкам трапечуць у руках!»

*Жаночая зборная Беларусі па баскетболе паедзе ў 2013 годзе на чэмпіянат Еўропы, які пройдзе ў Францыі.*



Пасля таго як нашы баскетбалісткі перамаглі ў Мінску каманду Украіны, стала вядома, што адначасова яны заваявалі і пуцёўку ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы-2013.

Нагадаем, што гэта першы поспех зборнай пад кіраўніцтвам літоўскага спецыяліста Рымантаса Грыгаса.

Як напісаў адзін з балельшчыкаў (Кастусь Знарачан) на форуме:

*Імклівыя і лёгкія...*
*На вас не нагляджусь.*
*Трыбуны хай галёкаюць:*
*"Наперад, Беларусь!"*
*Мы будзем вам удзячныя*
*У думках і радках...*
*Хай сэрцы хлопцаў мячыкам*
*Трапечуць у руках!*

**Алесь СІВЫ.**



КОШТ ПЫТАННЯ

## «Беларуськалій» не пашкадаваў 112 тысяч еўра на песні і танцы

*Міністр культуры Павел Латушка паведаміў, колькі грошай у гэтым годзе выдаткавана на "Славянскі базар".*

Па словах чыноўніка, на фестываль у гэтым годзе было выдаткавана 32 мільярды 900 мільёнаў рублёў. У асноўным гэта бюджэтныя сродкі, але ў справаздачы з'явіліся цікавыя даныя. Так, напрыклад, выручка ад продажу квіткоў склала 14 мільярдаў 800 мільёнаў. У параўнанні з мінулым годам, выгада ад продажу вырасла ў два разы. Што тычыцца спонсарскай дапамогі, то гэта 4 мільярды 200 мільёнаў рублёў. Галоўны спонсар форуму кампанія "Беларуськалій" прадаставіла фестывалю 112.000 еўра.

ТЫМ ЧАСАМ

## Міністра культуры трасе ад «Еўрабачання»

*У Міністэрстве культуры некалькі гадоў таму абмяркоўвалася магчымасць, каб праз "Славянскі базар" можна было адбіраць беларускага прадстаўніка на "Еўрабачанне". Беларусь на конкурсе мог бы прадстаўляць пераможца конкурсу маладых выканаўцаў.*

Гэтая прапанова знаходзіцца на стадыі абмеркавання і зараз, але, паводле слоў чыноўнікаў, да прыняцця канчатковага рашэння яшчэ вельмі далёка. Між тым міністр культуры **Павел Латушка** заўважыў, што агульны ўзровень выканаўцаў павінен быць больш высокім. Акрамя таго, чыноўнік жартам заявіў, што яго ўжо *"трасе ад адной згадкі пра "Еўрабачанне".*

Як вядома, у кожным жарце ёсць доля праўды. Латушка атрымаў строгую вымову пасля скандалу з нацыянальным адборачным турам "ЕўраФэст".

**Марыя МАЛЕВІЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт**
**"Народнай Волі".**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Браў хабар?

***У мінулым нумары "Народнай Волі" паведамлялася аб затрыманні першага намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама Ігара Васільева. Праўда, афіцыйныя органы тады ўсяляк утойвалі гэтую інфармацыю. У КДБ, напрыклад, сказалі, што "каментарыяў па гэтым пытанні не будзе". У гарвыканкаме заявілі, што "Васільеў знаходзіцца ў адпачынку".***

***І вось усё высветлілася. Генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк пацвердзіў, што першы намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Ігар Васільеў на самай справе затрыманы. Ён падазраецца ў атрыманні хабару (арт.430 КК Беларусі).***

На пасаду першага намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама Васільеў быў прызначаны ў кастрычніку 2010 года пасля ўзгаднення яго кандыдатуры Аляксандрам Лукашэнкам. У гарвыканкаме чыноўнік курыраваў пытанні энергетыкі, камунальнай гаспадаркі, Тэндэрны цэнтр і Гаррэмаўтадор.

ВЫБАРЫ-2012

# Замаскіраваліся

## *Аналіз створаных акруговых камісій паказвае, што «чужыя» ў іх не трапілі*

*Азнаёміўшыся са спісамі членаў гомельскіх выбаркамаў, назіральнікі прыйшлі да высновы, што ўсе сябры камісій — "свае людзі" для ўлады. Спрэс начальнікі, прадстаўнікі выканкамаў, адміністрацый горада, дырэктары школ... Але яны замаскіраваліся і прайшлі ў камісіі як вылучэнцы ад грамадскіх аб'яднанняў, прафсаюзаў і ад грамадзян шляхам збору подпісаў. Затое ні адзін прадстаўнік апазіцыйных палітычных партый у гомельскія камісіі не трапіў.*

*Гомель асабліва вызначыўся ці "маскіроўка" начальства пад "звычайных грамадзян" — распаўсюджаная па ўсей краіне практыка?*

*"Народная Воля" з дапамогай няштатных карэспандэнтаў вырашыла прааналізаваць склад некаторых акружных выбарчых камісій, каб можна было рабіць пэўныя высновы. Акругі для гэтай мэты бралі адвольна і толькі па адным прынцыпе — каб былі прадстаўлены розныя рэгіёны.*

## Дванаццаць на аднаго

Белавежская выбарчая акруга №8 аб'ядноўвае выбаршчыкаў Камянецкага, Жабінкаўскага і Маларыцкага раенаў Брэстчыны. Першае ж прозвішча са спісаў акружнога выбаркама ўказала на вядомага ў рэгіёне чалавека — Валерый Андрэюк узначальвае Жабінкаўскі разлікова-касавы цэнтр "Белаграпрамбанка".

Другое прозвішча — і "разгул дэмакратыі". Пётр Андрыевіч быў вылучаны ў склад камісіі ад Партыі БНФ.

Рамана Гароха ў склад выбаркама вылучылі звычайныя грамадзяне. Але ён асоба ў раёне вядомая, быў дэлегатам апошняга Усебеларускага сходу, дэпутат Жабінкаўскага райсавета, у "мірным жыцці" ўзначальвае ААТ "Ракітніца".

Не менш вядомая асоба — Віктар Грыцук. У склад камісіі трапіў "ад звычайных грамадзян", але працуе Віктар Мікалаевіч начальнікам аддзела адукацыі Камянецкага райвыканкама.

Простыя грамадзяне вылучылі ў камісію і Аляксандра Еўтуховіча — намесніка гендырэктара Жабінкаўскага цукровага завода па сацыяльных пытаннях (прасцей кажучы — завадскога ідэолага).

Начальнікі і падначаленыя, па некалькі прадстаўнікоў адной і той жа арганізацыі ў выбарчых камісіях працаваць не павінны. Але яшчэ адзін прадстаўнік Камянецкага раённага аддзела адукацыі будзе працаваць у Белавежскім выбаркаме. Гэта метадыст вышэйзгаданага аддзела Юлія Кісель.

Як і трэба па "дэмакратычнай працэдуры", прадстаўлены ў выбаркаме і грамадскія арганізацыі. Але якія?!

Ніна Калыбская — кіраўнік Жабінкаўскага райкама прафсаюза працаўнікоў аграпрамысловага комплексу і Вольга Міклашэвіч ад БРСМ. Абедзве — вопытныя ўдзельніцы выбарчых кампаній.

Дзіўным чынам пад выбары прачнуўся і Беларускі фонд міру, які вылучыў сваіх прадстаўнікоў у камісіі амаль па ўсіх рэгіёнах. Цяжка сказаць, як змагаецца за мір Раіса Мышкавец, але працуе яна дырэктарам Жабінкаўскага раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Ну а вылучэнец праўладнай арганізацыі "Белая Русь" Святлана Озальс прадстаўніком улады і з'яўляецца, бо ўзначальвае аддзел арганізацыйна-кадравай работы Жабінкаўскага райвыканкама. Маларыцкі райвыканкам прадстаўляе ў камісіі Алена Няхаева — галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай працы. Праўда, у дакументах аб фарміраванні камісіі пазначана, што яе вылучыла не ўлада, а простыя грамадзяне.

Апошнія два прозвішчы — Анатоль Лаўрукевіч, галоўны ўрач Жабінкаўскай раённай бальніцы і Тамара Чапрасава, намеснік дырэктара па ідэалагічнай працы Жабінкаўскага камбікормавага завода.

Сапраўды, калі б не прадстаўнік Партыі БНФ, то можна было б смела гаварыць, што выпадковых людзей у камісіі няма. І што выбары будзе праводзіць мясцовае начальства.

**Сцяпан КАВАЛЬЧУК.**

## Не проста чыста, а стэрыльна

Не ўлада, а прафсаюз дзяржаўных служачых вылучыў у склад Ваўкавыскай акруговай выбарчай камісіі №48 Уладзіміра Мікалаевіча Захарчука. Але аказалася, што "выпадкова" ён працуе намеснікам старшыні райвыканкама і з'яўляецца галоўным ідэолагам раёна. Менавіта Уладзімір Захарчук і стаў старшынёй акруговай камісіі.

Акрамя яго, асабістым подпісам вынікі галасавання як сакратар камісіі будзе завяраць Наталля Пісар. Яе вылучаў і Беларускі фонд міру, і простыя грамадзяне, але сама Наталля Іванаўна — чалавек не з простых. Цяжка сказаць, якія яна мае заслугі ў барацьбе за мір, але працуе ў Ваўкавыскім раённым Савеце дэпутатаў галоўным спецыялістам.

Пенсіянер Дзмітрый Ганісеўскі абраны намеснікам старшыні камісіі. Дарэчы, цікава, што раней Ганісеўскі трапляў у склад выбаркамаў па "ветэранскай квоце", але на гэты раз квоту аддалі іншаму заслужанаму чалавеку — Рышарду Мулярчыку. Нібы ўжо без ветэранаў і выбары ў краіне правесці немагчыма.

У Ваўкавыскай акруговай камісіі прадстаўнікоў апазіцыйных партый і арганізацый увогуле няма. Але калі глядзець на паперы, то падаецца, што ўсё больш-менш дэмакратычна: грамадзяне вылучалі сваіх прадстаўнікоў, грамадскія арганізацыі, прафсаюзы. Усё становіцца зразумелым, калі пачынаеш шукаць месца працы гэтых вылучэнцаў. Дырэктар школы-інтэрната, дырэктар мясцовага аўтапарка, начальнік аддзела мясакамбіната, дырэктар кінатэатра, актывісты БРСМ, Саюза афіцэраў, аб'яднання "Белая Русь"... Ну, што можна сказаць? Стэрыльна чыстая камісія.

**Наталля КАЗЛОЎСКАЯ.**

## Радыяцыя дэмакратыі не спрыяе

Хойнікская выбарчая акруга ўключае Брагінскі, Лоеўскі, Хойнікскі і частку Рэчыцкага раёнаў. У складзе акруговай камісіі неяк апынуўся адзін камуніст-калякінец. А што тычыцца ўсіх астатніх — то спіс нагадвае тэлефонны даведнік мясцовага кіраўніцтва.

Дырэктар лясгаса, дырэктар спартыўнай школы алімпійскага рэзерву, кіраўнік аддзялення "Белаграпрамбанка", дырэктар сельгаспрадпрыемства, кіраўнік цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, загадчыца аптэкі. Нават дырэктар Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка Мікалай Кузьменка знайшоў час, каб кіраваць выбарамі. Ну і прадстаўнікі выканкамаў, зразумела ж, у складзе камісій ёсць. Як і па ўсёй краіне, іх вылучала не ўлада. Іх вылучалі альбо прафсаюзы, альбо грамадзяне.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

***

*Можна працягваць эксперымент і ісці далей па акругах, але, падаецца, што ўсё ўжо і так зразумела. Хаця нагадаем: па заканадаўстве ў камісіях павінны працаваць не больш за адну трэць працаўнікоў дзяржаўных органаў ці дзяржаўных служачых. Аднак, як паказвае вопыт, патрабаванне закона можна паспяхова абыходзіць. Бо не важна, як людзі галасуюць. Важна — хто і як лічыць галасы. Гэта яшчэ Іосіф Сталін сказаў.*



ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Праз калена

Выбары ў Беларусі па традыцыі пачынаюцца са скандалу. 11 ліпеня ў доме сустаршыні кампаніі "За справядлівыя выбары" Віктара Карняенкі ў Фаніпалі паводле санкцыі пракурора быў праведзеныператрус.

Міліцыянеры адразу паведамілі, што шукаюць друкаваную прадукцыю, якая датычыцца выбараў. І ў выніку канфіскавалі бюлетэні "За справядлівыя выбары", нібы ў гэтым закліку ёсць нешта крамольнае, антыдзяржаўнае ці незаконнае.

Але самае дзіўнае нават у іншым. Скандал здарыўся напярэдадні вельмі важнай падзеі. Чакалася, што кіраўнік Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына і адзін з кіраўнікоў незалежных назіральнікаў за выбарамі Віктар Карняенка сустрэнуцца ў Вене падчас семінара АБСЕ па тэме выбараў. І, магчыма, нейкія правілы гульні будуць выпрацаваны. Але некаму спатрэбілася не толькі ўчыніць скандал, але і сарваць такую сустрэчу.

На наступны дзень, 12 ліпеня, Віктара Карняенку проста не выпусцілі з краіны. У аэрапорце "Мінск-2" яму паведамілі, што ён невыязны і паставілі ў пашпарт адпаведную пячатку.

— Мне нічога не патлумачылі, — гаворыць палітык. — Я атрымаў пасадачны талон, усё прайшоў, а на пашпартным кантролі пагранічнікі сказалі, што ёсць забарона на мой выезд. І больш ніякіх тлумачэнняў. Я нават сфатаграфаваў: побач мой пасадачны талон і штамп „У выездзе адмоўлена".

Такім чынам, беларускія ўлады зноў прадэманстравалі, што прытрымліваюцца старой тактыкі: ніякага дыялогу, ніякіх саступак, усіх нязгодных ламаць праз калена.




### ТЫМ ЧАСАМ

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, як вядома, знаходзіцца ў спісе невыязных у краіны Еўрасаюза. Прычым менавіта за тое, як праходзілі беларускія выбары пад яе кіраўніцтвам. Як жа яна патрапіла ў Вену? Чаму атрымала візу?

*"Згодна з нормамі міжнароднага права, краіна ЕС павінна выдаць візу асобе, афіцыйна запрошанай у штаб-кватэру міжнароднай міжурадавай арганізацыі,* — патлумачыў аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў, які працуе ў Вільнюсе, Андрэй Елісееў. — *Краіна ЕС таксама павінна прадаставіць асобе выключэнне з санкцый, калі яна прымае міжнародную канферэнцыю, арганізаваную пад эгідай ААН. Яшчэ адзін рэдкі выпадак — калі чыноўнік мае падвойнае грамадзянства, то краіна ЕС не можа забараніць уезд свайму грамадзяніну".*

Такім чынам, у дзеяннях Еўрасаюза няма супярэчнасцяў, бо ў Вене знаходзіцца штаб-кватэра АБСЕ. Але сітуацыі, калі людзі са спісу неўязных усё ж трапляюць у Еўропу на нейкія міжнародныя мерапрыемствы, кожны раз выклікаюць вельмі неадназначную рэакцыю. Навошта было на гэты раз усё даводзіць да скандалу?

Віктар Карняенка лічыць, што, запрашаючы прадстаўнікоў афіцыйнага Мінска на падобныя мерапрыемствы, еўрапейскія палітыкі дэманструюць залішні аптымізм і неразуменне беларускай сітуацыі.

*"Неабачліва паступаюць тыя палітыкі, якія лічаць, што яшчэ ёсць нейкія спадзяванні на тое, што каманда, якая робіць выбары ў Беларусі, можа наблізіцца да дэмакратычных стандартаў у галіне іх правядзення. Гэта марныя спадзяванні. І таму я лічу такое запрашэнне памылкай",* — сказаў Віктар Карняенка.

**Алег СНОЎ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## «Нічога новага ў гэтых выбарах няма...»

*Прадстаўнікі грамадзянскай кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары" распавялі пра першы этап парламенцкіх выбараў — фарміраванне акруговых камісій.*

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ, праваабаронца:**

— Што датычыць апазіцыйных палітычных партый, то 48 чалавек патрапілі ў акруговыя выбаркамы, што складае 24% ад вылучаных імі. Агульная доля апазіцыйных кандыдатаў у камісіях складае 3,3%. Дадам, што ў межах кампаніі падлічваліся кандыдатуры, якія вылучаліся менавіта ад партый. Хоць трэба адзначыць, што тыя апазіцыйныя рухі і арганізацыі, якія не маюць рэгістрацыі, маглі вылучаць сваіх сябраў шляхам збору подпісаў ад грамадзян. Аднак нам вядома, што аргкамітэт па стварэнні партыі БХД свае кандыдатуры не вылучаў, бо выступае за байкот выбараў. Рух "За свабоду" сваіх прадстаўнікоў таксама не вылучаў. Кампанія "Гавары праўду" ў вылучэнні актыўна не ўдзельнічала, яны заявілі толькі 8 кандыдатур.

Калі паглядзець на структуру камісій, відаць наступныя тэндэнцыі: стала менш тых, хто вылучаўся ад працоўных калектываў; большасць вылучалі ад грамадскіх аб'яднанняў і групы грамадзян. Як і раней, абазначыліся асноўныя "арганізатары" выбараў — гэта чатыры буйныя праўладныя грамадскія арганізацыі: Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, "Белая Русь", БРСМ, Беларускае аб'яднанне ветэранаў. Усе яны разам вылучылі ледзь не 92% кандыдатур ад усіх прадстаўленых грамадскіх арганізацый. Калі параўноўваць лічбы з папярэднімі выбарамі, можна сказаць, што працэнт кандыдатаў ад апазіцыйных партый, якія ўвайшлі у камісіі, меншы, чым у 2008 годзе. Хоць на тых выбарах была стратэгія, што вылучалі па адным прадстаўніку ад апазіцыі ў кожную акруговую камісію. На 110 акруговых камісій было вылучана 118 кандыдатур. Але ўвайшло ў камісіі толькі 34% — на 8% больш, чым сёлета.

**Алег ГУЛАК, старшыня РПГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт":**

— Прагрэсу ў адрозненні ад кампаніі-2008 не адбылося, нічога новага ў гэтых выбарах няма. Па-ранейшаму пасяджэнні выканкама і прэзідыума саветаў прайшлі ў вельмі хуткім рэжыме — ад 15 да 60 хвілін. На пасяджэннях можна было задаць пытанні, але ніякага публічнага абмеркавання кандыдатур не было. Пакуль невядома, як шмат будзе абскарджванняў. Некаторыя партыі і грамадзяне заявілі пра гэта.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ:**

— Адсутнасць крытэрыяў, па якіх вылучаюцца кандыдатуры ў камісіі, дазваляе дзяржаўным органам суб'ектыўна фарміраваць камісіі. "Напрыклад, "Белая Русь" вылучыла 117 чалавек,з якіх 106 прайшлі ў камісіі — гэта 98,5% ад вылучаных. У той час як усе апазіцыйныя палітычныя партыі склалі толькі 24%".

Яшчэ адна асаблівасць сёлетніх выбараў — у спісах акруговых камісій з'явіліся прадстаўнікі адміністрацый раёнаў, праўрадавых арганізацый, але сёлета яны падавалі заяўкі не ад грамадскіх аб'яднанняў, а ад групы грамадзян шляхам збору подпісаў. Цікава, інтарэсы якіх грамадзян прадстаўляюць гэтыя кандыдатуры? Па Гомельскай вобласці мы маем інфармацыю, што так вылучаліся прадстаўнікі раённых адміністрацый.

**Алег ГУЛАК:**

— Паводле сацыялагічных апытанняў, цікавасць у народа да парламенцкіх выбараў невялікая. Гэта праблема, якую ўлады павінны разумець. Такое стаўленне ў людзей сфарміравалася, бо выбарчая працэдура непразрыстая, а роля парламента ў краіне малая. Як вырашыць праблему? Парламент павінен стаць рэальнай палітычнай сілай у дзяржаве, а выбары — зразумелай і адкрытай працэдурай для выбаршчыкаў і назіральнікаў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

Стала вядома, што яшчэ ў адной акрузе ўлады не сталі гуляць у дэмакратыю і шчыра пазначылі, хто і як праводзіць выбары. У Рэчыцкай акрузе старшынёй акружной камісіі таксама абраны галоўны ідэолаг райвыканкама.

Старшыня Гомельскай абласной рады Партыі БНФ Валерый Пуціцкі быў накіраваны ў камісію ў якасці назіральніка ад групы грамадзян і таму стаў сведкам таго, што і як адбывалася:

— *Першае пасяджэнне Рэчыцкай акруговай выбарчай камісіі прайшло пад пільным наглядам старшыні райвыканкама*, — расказаў Валерый Пуціцкі. — *Старшыня райвыканкама Пётр Шостак вёў пасяджэнне, хаця членам камісіі не з'яўляецца. Калі ён сказаў, што трэба абраць старшыню камісіі, то ніхто нават не выказаў ніякіх прапаноў. І кандыдатуру на пасаду старшыні прапанаваў сам Пётр Шостак. А затым і прагаласаваў за яе. Прапаную, кажа, абраць старшынёй Віталя Атаманчука — гэта намеснік старшыні райвыканкама па ідэалогіі, які і раней неаднойчы ўзначальваў выбарчыя камісіі. І сам першы падняў руку, галасуючы. За ім і астатнія прагаласавалі.*

Дарэчы, у склад Рэчыцкай камісіі ніхто з прадстаўнікоў апазіцыі не ўключаны, хаця былі вылучаны трое: Васіль Гулай ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Уладзімір Шэін ад партыі "Справядлівы свет" і Алег Карбалевіч ад Партыі БНФ.

## *Як пройдуць дэбаты?*

*Цэнтрвыбаркам прыняў палажэнне аб парадку выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі падчас выбарчай парламенцкай кампаніі.*

*Кожнаму кандыдату будзе прадастаўлена па пяць хвілін эфірнага часу і яшчэ 5 хвілін — вядучаму. Такім чынам, калі ў дэбатах удзельнічаюць два кандыдаты, то будзе выдзелена 15 хвілін эфіру, пяць кандыдатаў — паўгадзіны.*

У дэбатах кандыдаты змогуць удзельнічаць не толькі асабіста, але і накіраваўшы на іх сваіх памочнікаў.

Кандыдатам у дэпутаты будзе прадастаўлена права выступлення па тэлебачанні і радыё. Па тэлебачанні выступленні будуць трансліравацца з 19.00 да 20.00, па радыё — з 18.00 да 19.00.

Таксама кожны кандыдат у дэпутаты будзе мець магчымасць бясплатна апублікаваць сваю праграму ў адной з рэспубліканскіх дзяржаўных газет, а таксама ў абласной, гарадской газеце ці раёнцы.

Да выбараў шмат гаварылася пра тое, што кандыдаты ад дэмакратычных сіл калі і будуць удзельнічаць у выбарах, то з нейкім адзіным пасланнем да выбаршчыкаў. Ці ўдалося яго выпрацаваць?

— *Не, адзінага паслання ад кааліцыі дэмакратычных сіл няма,* — патлумачыў "Народнай Волі" старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**. — *Паколькі розныя палітычныя сілы выбралі розную стратэгію, то пытанне нейкага адзінага паслання адпала само сабой. Што тычыцца АГП, то кандыдаты нашай партыі пойдуць з праграмамі і выступленнямі, у якіх будуць жорстка ацэньваць тое, што адбываецца ў краіне. А вось з чым пойдуць тыя, хто не збіраецца здымаць свае кандыдатуры, цяжка сказаць. Думаю, усё будзе залежаць ад кожнага канкрэтнага чалавека. Ад таго, наколькі кандыдат верыць у тое, што "раптам шчасце зваліцца".*

*Некаторыя аналітыкі не выключаюць, што для наладжвання адносін з Захадам пару-тройку прадстаўнікоў апазіцыі гэтым разам беларускія ўлады могуць у Палату прадстаўнікоў прапусціць. Вось на гэту надзею і намякае Анатоль Лябедзька.*

*Дарэчы, практычна перад кожнымі парламенцкімі выбарамі пачынаюць хадзіць падобныя чуткі, "людзі дасведчаныя" даюць апазіцыянерам ці надзею, ці кручок. Але ні адзін кандыдат з альтэрнатыўнай думкай у Палату прадстаўнікоў ніколі не трапляў.*

**Алена НОВІКАВА.**

ШЧЫРА

## *«Я ўнутрана не згодны з запрашэннем місіі назіральнікаў ад АБСЕ»*

*На парламенцкія выбары ў Беларусь запрошаны назіральнікі БДІПЧ АБСЕ.*

Афіцыйнае запрашэнне на адрас Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ і Выканкама СНД МЗС Беларусі накіравала 6 ліпеня.

Сакратар Цэнтрвыбаркама Беларусі Мікалай Лазавік заявіў, што "ўнутрана не згодны з запрашэннем місіі назіральнікаў ад АБСЕ", бо "зняверыўся ў аб'ектыўнасці заключэнняў місіі АБСЕ".

*"Прэзідэнцкія выбары 2010 года былі высока ацэнены практычна ўсімі назіральнікамі. У папярэдняй справаздачы БДІПЧ АБСЕ нават было напісана, што працэс галасавання праходзіць добра. Але затым усе станоўчыя моманты былі выкінуты, а пакінуты толькі негатыў. Еўрачыноўнікі сфальсіфікавалі вынікі назірання, замяніўшы іх палітызаванымі ацэнкамі. Яны ацэньвалі не вынікі выбараў, а далі палітычную ацэнку мерапрыемству "Плошча",* — заявіў Лазавік.

У той жа час ён падкрэсліў, што будзе выконваць сваю работу па забеспячэнні зручнай працы назіральнікаў, у тым ліку ад АБСЕ. *"Недахопу ў місіях не будзе",* — запэўніў сакратар ЦВК.

З-ЗА КРАТАЎ

## Трэба біць у званы!

### *Супраць Зміцера Дашкевіча могуць распачаць новую крымінальную справу*

Адміністрацыя Глыбоцкай папраўчай калоніі №13 накіравала ў Следчы камітэт матэрыялы для таго, каб супраць палітвязня Зміцера Дашкевіча была распачата новая крымінальная справа за "невыкананне рэжыму калоніі".

Гэту інфармацыю пацвердзіла афіцыйны прадстаўнік СК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова. Па яе словах, праверка будзе доўжыцца 10 дзён, а калі спатрэбіцца — месяц.

Ініцыятыва аб узбуджэнні новай крымінальнай справы — гэта відавочная спроба як мага дольш трымаць аднаго з самых вядомых маладзёжных лідараў за кратамі. Справа ў тым, што па цяперашнім прыгаворы Зміцер павінен быў выйсці на волю ў канцы гэтага года.

Як расказала "Народнай Волі" нявеста Дашкевіча Наста Палажанка, Зміцер своеасабліва адрэагаваў на спробу навесіць на яго новую справу і новы прыгавор. Ён падаў на імя начальніка калоніі з'едлівую заяву, якую назваў "Яўка з павіннаю".

*Начальніку ПК-13*
*Яўка з павіннаю*

*Я, Дашкевіч Д.В., прызнаю сябе віноўным у тым, што сьвядома адмаўляюся выконваць некаторыя патрабаваньні адміністрацыі калёніі, якія лічу незаконнымі.*

*Каб спрасьціць працу правакатарам, агентам і сьледчаму камітэту, я адмаўляюся выконваць любыя патрабаваньні адміністрацыі любой калёніі, у якой я буду знаходзіцца.*

*Раю беларускім спэцслужбам асудзіць мяне на максімальны тэрмін, прадугледжаны арт.411 КК РБ, пры гэтым рыхтуючы на мяне новыя крымінальныя справы ў кожнай новай калёніі.*

*Зміцер Дашкевіч*
*10.07.2012*

Зміцер Дашкевіч з'яўляецца своеасаблівым рэкардсменам па колькасці пакаранняў у штрафным ізалятары. Пасля апошняга выхаду ў атрад яго зноў змясцілі ў штрафны ізалятар на 13 сутак. Пазней ён даведаўся, што адбываў пакаранне за тыя парушэнні, якія ён нібыта здзейсніў раней. Усе палітзняволеныя сцвярджаюць, што кіраўніцтва калоній адкрыта чапляецца да іх, прызначаючы пакаранні за незашпіленыя гузікі, чытанне кніг у нявызначаны час і таму падобныя "грахі", што аўтаматычна зрабіла ўсіх "злоснымі парушальнікамі" і пазбавіла права на амністыю. Але тое, што адбываецца з Дашкевічам, ужо нагадвае нейкі адкрыты здзек.

Ці можа чалавек, які апынуўся ў такой сітуацыі, як Зміцер Дашкевіч, супрацьстаяць прэсінгу адміністрацыі калоніі? З такім пытаннем мы звярнуліся да праваабаронцы **Эніры Браніцкай**, якая сама была за кратамі па справе незарэгістраванай арганізацыі "Партнёрства".

"*Праблема агулам усіх нашых калоній у тым, што яны вельмі закрытыя. Туды немагчыма патрапіць нікому, акрамя адвакатаў. Але апошняя практыка сведчыць, што і абаронцам стала не так проста трапляць на сустрэчы. Што там робіць адміністрацыя і як яна гэта робіць — гэта вялікае пытанне з прычыны той самай закрытасці. Я ўпэўнена, што адміністрацыя калоніі можа ініцыяваць новую справу супраць любога чалавека. Яна можа стварыць розныя праблемы, можа сфальсіфікаваць што заўгодна, бо, на жаль, людзі ў турмах абсалютна безабаронныя. Адзіны варыянт, які ў іх застаецца, — гэта нейкім чынам дабівацца публічнасці. Што ў сваю чаргу вельмі складана з-за цэнзуры. Любымі шляхамі трэба імкнуцца перадаваць інфармацыю з-за кратаў, бо толькі крыкі аб тым, што чалавека там "прэсуюць", могуць дапамагчы. Канешне, можна скарыстацца легальным варыянтам і пісаць скаргі. Яны тэарэтычна могуць даць эфект. Гіпатэтычна чалавек сам можа падаць скаргу без адваката, але я сама ведаю выпадкі, калі пасля гэтага адміністрацыя пачынала ціснуць на зняволенага, каб той забраў свае паперы. І ў выніку адбываецца яшчэ горш. Застаецца адзінае выйсце — публічнасць. Тады адміністрацыя можа спыніцца, бо ўсе ведаюць, што ёсць закон і яго нельга парушаць*".

Праваабаронцы лічаць Зміцера Дашкевіча вязнем сумлення, нягледзячы на тое, што яго затрымалі за дзень да прэзідэнцкіх выбараў — 18 снежня 2010 года — і абвінавацілі ў злосным хуліганстве. Аднак назіральнікі за гэтай справай і тым судом упэўнены, што яго арышт быў прэвентыўнай мерай па ізаляцыі аднаго з самых яркіх маладзёжных лідараў на час правядзення масавай акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкай кампаніі. На волю Зміцер мусіў выйсці сёлета 18 снежня. Але ў тым выпадку, калі яго пакараюць па новым артыкуле, ён можа правесці за кратамі яшчэ немалы час.

**Любоў ЛУНЁВА.**

